

ВОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAČKAUŠČYNA“ („VATERLAND“)

Herausgeber: Wladimir BORTNIK

Postadresse: Die Weissruthenische Zeitung „Baćkauščyna“ („Das Vaterland“), (13 b) München 19, Schliessfach 69.

Druck. „LOGOS“, Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 19, Bothmerstr. 14

**Цана:** **Нямеччына** (іншыя эўрапэйскія краіны бяз Францыі й паўдзённаамэрыканскія краіны»: год — 25 н. м.; паўгода — 12,5 н. м.; **ЗША й Канада:** год — 13 дал.; паўгода — 6,5 дал.; **Ангельшчына й Аўстралія:** год — 60 шыл.; паўгода — 30 шыл.; **Францыя:** год — 25 н. ф.; паўгода — 12,5 н. ф. **Перасылка лётніцкай поштай у ЗША й Канаду каштуе падвойна, у Аўстралію й краіны Паўднёвай Амэрыкі — патройна. Падвойныя нумары каштуюць падвойна.**

**Банковае конто: Zeitung „Baćkauščyna“, Konto Nr. 357-125, Bay. Hypotheken- u. Wechselbank, München**

ЦАНА 50 Н. ФЭН. — PREIS 50 Pf.

LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE“

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND“

THE BELORUSSIAN NEWSPAPER „THE FATHERLAND“

№ 8 (592) — Мюнхэн, Вялікдзень 1962 г.— München, Ostern 1962 — ГОД ВЫДАНЬНЯ 16


# Божай Міласьцю

## Сьвяшчэнны Сабор Япіскапаў Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы на Чужыне

**ДА ЎСЯЧЭСНАГА ДУХАВЕНСТВА, ПРАПАДОБНАГА МАНАСТВА Й УСІХ БАГАЛЮБНЫХ ВЕРНІКАЎ НАШЫХ НА ЧУЖЫНЕ Й НА БАЦЬКАЎШЧЫНЕ ПРАБЫВАЮЧЫХ**

## Вялікоднае Архіпастырскае Пасланьне

## ХРЫСТОС УВАСКРОС!

«ХРЫСТОС УВАСКРОС, сьмерць паканаў і нам жыцьцё даравАў».

(Вялікодны Трапар).

УЛЮБЛЕНЫЯ ДЗЕЦІ НАШЫЯ!

ХРЫСТОС УВАСКРОС! ВЯЛІКДЗЕНЬ! Агульная, вялікая радасьць! Гэта: «Дзень, што яго стварыў Гасподзь! Будзем радавацца й весяліцца ў ім» (Пс. 117, 24). У чым тут аснова радасьці нашае? Усе мы ведаем, што ў сьвеце дзеюць дзьве супрацьлежныя сілы: Жыцьцё і Сьмерць. Побач з усёажыўляючай сілай як у сьвеце матар'яльным, так і ў духовым, бязу- [illegible] другая сіла, што руйнуе, спрычыняе сьмерць усяго існага, у тым ліку й чалавека. Чалавек істота ня толькі цялесная, але й духовая. Аднак, ён можа цялесна жыць, а духова памерці па слову Апостала: «А хто ня любіць брата свайго, той перабывае ў сьмерці» (Іо. 3, 14). І гэта зразумела, бо: «Грэх, гэта джала сьмерці» (І Кар. 15, 56). Вось-жа, чалавек можа падвойна памерці: цялесна й духова — душою.

Такое сумнае было жыцьцё людзкое даўней, да ўваскрасеньня Хрыстовага дзеля вялікага грэху Адама. Там сьмерць панавала ўсюды: у сьвеце матар'яльным і духовым. Там сьмерць чалавека была канцом ягонага існаваньня, як і ўсякае іншае жывое істоты. Але, вось, настаў сьветлы й бясконца радасны для нас мамэнт: Хрыстос, Сын Божы, з гробу ўстаў, сьмерць паканаў, перамог, УВАСКРОС! Няма ўжо сьмерці для нас! Мы ўжо несьмяротныя! Як Ён і Сам сказаў: «Запраўды кажу вам: хто слухае слова Маё, і верыць Паслаўшаму Мяне, мае жыцьцё вечнае, і на суд ня ідзе, але перайшоў ад сьмерці ў жыцьцё» (Іо. 5, 24). І сьв. вярхоўны Апостал Павал усклікае: «Гасподзь Бог і нас, мёртвых грахамі, ажывіў разам з Хрыстом, і ўваскрасіў зь Ім» (Эф. 2, 5—6). Сталася тое, што Гасподзь Міласэрны сказаў людзям ужо праз прарока: «Сьмерць! дзе тваё джала? Пекла! дзе твая перамога?» (Ос. 13, 14).

Так, Хрыстос, як Богачалавек, як Першы з нас, зламаў джала сьмерці, Сваёю Чэснаю Крывёю змыў наш грэх першародны, адкрыў нам дзьверы Раю, даравАў жыцьцё вечнае! Душа кажнага з нас, веруючага ў Яго, нашага Адкупіцеля й Спаса, ужо ня ўмірае, ужо вечна жыве, вечна радуецца ў Нябёсах!

Вось чаму, любыя дзеці нашыя, Уваскрасеньне Хрыстовае — такі Вялікі й слаўны для нас Дзень, такое радаснае для нас Сьвята. Гэта Сьвята над Сьвятамі! Бо-ж Хрыстовая перамога — нашая перамога! Бо-ж Ягонае Ўваскрасеньне — нашае ўваскрасеньне! А каб мы заўсёды памяталі аб гэтым, каб душы нашыя маглі стала радавацца, Ён заснаваў на зямлі Сваю Сьвятую Царкву, каб яна ўсьцяж прыпамінала нам словы Яго: «Вось Я з вамі ўва ўсе дні да сканчэньня веку» (Мц. 28, 20). Так, Ён стала з намі! Асабліва-ж Ён з намі ў часе Ягонага найбольшага праяўленьня Любові Свае да нас: у часе Сьмерці й Уваскрасеньня, на Вялікдзень!

І асабліва ў гэты Вялікі Дзень Ён прамаўляе да нас: Вы — Мае! Я Уваскрос, уваскрэсьнеце й вы! І ня дзіва, нас, памагае нам будаваць аснову Царства Божага на зямлі: Ягоныя й нашыя сьв. Праваслаўныя Цэрквы! І гэтым Ён ясна сьветчыць нам, што неўзабаве з гробу ўстане, уваскрэсьне й нашая любая пакутніца Маці-Беларусь, зазьзяе ў славе Яго!

Таму так радасна вітаем вас, усячэсныя Айцы, любыя Браты й Сёстры, і ўвесь наш слаўны Беларускі Народ, у поўнай Веры й Надзеі як на шчасьце вечнае, так і на нашае хуткае вызваленьне, зь Вялікім, Сьветлым і Радасным Сьвятам, перамогай і трыумфам душаў нашых: УВАСКРАСЕНЬНЕМ ХРЫСТОВЫМ, ВЯЛІКАДНЕМ! Радуйся й весяліся Беларускі Народзе! Чыстым і натхнёным сэрцам сьпявай хвалу Госпаду: ЗАПРАЎДЫ ХРЫСТОС УВАСКРОС! Неўзабаве праменьне Праўды й Свабоды Яго разьвее ўсю злую цемру на Радзіме нашай на радасьць і збаўленьне ўсіх нас, бо для таго Ён і ЎВАСКРОС!



што калі толькі душы нашыя пачуюць сьпеў! ХРЫСТОС УВАСКРОС! дык яны ўжо радасьці свае паўстрымаць ня могуць! Бо яны бачаць Яго, Творцу й Спаса нашага, бачаць расчыненыя Нябёсы! І яны ў захапленьні й любові гатовыя абняць увесь сьвет, кажнага, навет былога няпрыяцеля свайго, абдарыць чыстым Вялікодным пацалункам, прывітаць яго: Браце! ХРЫСТОС УВАСКРОС! Будзем радавацца й весяліцца!

І ў многіх з нас яшчэ ў памяці, якое мора радасьці й весялосьці разьлівалася па нашых вёсках на Вялікдзень! Сам Хрыстос тады там прабываў, па зямлі хадзіў, багаслаўляў, усіх пацяшаў. А цяпер? Дарагія, і цяпер Ён з намі тут, і з нашым народам удома, на катаргах і высылках. Таму й там наш народ цешыцца й весяліцца, з надзеяй натхнёна прамаўляе: ХРЫСТОС УВАСКРОС! АЛЕЛЮЯ! Бо асабліва там наш народ верыць, што Гасподзь Бог ужо праз прарока сказаў праўду: «Як тае воск перад агнём, так шчэзнуць бязбожнікі перад абліччам Божым» (Пс. 68, 3). Таму й мы тут будзем радавацца й весяліцца, натхнёна вітаць сябе Вялікодным пацалункам, зь любоўю й надзеяй прамаўляць: ХРЫСТОС УВАСКРОС! А Ён любіць

Ласка й Мір Госпада нашага Ісуса Хрыста, Любоў Бога й Айца, і Прысутнасьць Сьвятога Духа няхай будзе з усімі вамі. АМІНЬ.

**ЗЬМІРЭННЫ АРХІЯПІСКАП СЯРГЕЙ**
Галава Сьвяшчэннага Сабору Япіскапаў
Беларускае Аўтакефальнае
Праваслаўнае Царквы

**ЗЬМІРЭННЫ АРХІЯПІСКАП ВАСІЛЬ**
Сакратар Сьвяшчэннага Сабору
Япіскапаў БАПЦ на Чужыне

Дана Году Божага 1962
месяца красавіка
Аўстралія—Амэрыка.

# Азнакі слабасьці Савецкага Саюзу

Ужо на працягу некалькіх тыдняў праблема разззбраеньня заняла цэнтральнае месца ў актуальных палітычных розыйгрышах паміж Захадам і савецкім блёкам. Разьвіцьцё перамоваў аб раззбраеньні здраджвае ключ для разуменьня пазыцыяў Захаду і Ўсходу і паказвае сілу й слабасьць супрацьлежных блёкаў.

Спробуем, выходзячы ад праблемы раззбраеньня, як галоўнай міжнароднай праблемы нашага часу, прааналізаваць сілу й слабасьць Масквы.

Вайна, якая пагражае ператварыцца ў атамную, ня выхад для нікога. Іншая справа раззбраеньне. Тут, бяручы глябальнае міжнароднае палажэньне, можна, хоць і ў далёкай будучыні, прадбачыць пазытыўную эвалюцыю для цэлага людзтва. Гэта таму, што камуністычны рэжым, як ведама трымаецца на зброі. Зброя для камуністых ня столькі важная для далейшай вонкавай экспансіі, колькі для ўтрымоўваньня сваіх парадкаў унутры. Уявім сабе, што Крэмль згадзіўся на запраўдную забарону выпрабаваньняў і ўжыцьця ядзернай зброі, на поўнае зьнішчэньне ейных запасаў, а таксама на паступовую кантраляваную міжнароднымі органамі рэдукцыю ўсіх відаў канвэнцыянальнай зброі да мінімуму, гэта значыць да колькасьці, неабходнай для ўтрымачньня грамадзкага парадку — да паліцыйных аддзелаў. Ці каб да гэтага была створаная толькі адна міжнародная вайсковая сіла, скажам, у выглядзе аддзелаў Арганізацыі Задзіночаных Нацыяў. У выніку камуністычны блёк, апынуўся-б бяз тэй адзінай сілы, на якой камуністыя базуюць сваю ўладу. Для камуністых у Савецкім Саюзе гэта было-б тым больш небясьпечным пасьля таго, як Хрушчоў маральна скампрамітаваў і фізычна паслабіў сталінскія ворганы паліцыйнага тэрору. Калі-б да гэтага на тэрыторыю Савецкага Саюзу й іншых краінаў камуністычнага блёку мелі свабодны доступ нейкія міжнародныя ворганы, аўтарытэт камуністых як адзінай, неаспрэчнай улады ў краіне быў-бы ў вачох народных масаў цалкам падарваны. Народы бачылі-б, што навет на іхнай тэрыторыі маюць слова нейкія міжнародныя ворганы, зь якімі мусіць лічыцца і савецкая ўлада.

Ня цяжка сабе ўявіць, што ў такіх умовах працэс актывізацыі апазыцыйных сілаў у Савецкім Саюзе пайшоў-бы хуткім крокам наперад і стымуляваў-бы эвалюцыю падсавецкага грамадзтва калі не на шлях адкрытай антыкамуністычнай рэвалюцыі, дык прынамся ў кірунку неаспрэчнай і хуткай лібэралізацыі рэжыму.

Вальшавікі гэта добра разумеюць. Таму яны ня супраць прапаганды навокал пытаньня раззбраеньня з надзеяй, што ім удасца ашукаць заходнія дзяржавы, прымусіўшы іх згадзіцца на раззбраеньне на ўмовах, якія ўва ўсякім выпадку пакідалі-б Савецкаму Саюзу ваенную перавагу. Таму яны й супраць усякай міжнароднай кантролі на сваёй тэрыторыі.

У савецкім блёку назіраецца выразны ідэялягічны крызіс. Жыцьцёвая практыка адкінула ледзь ня ўсе тэарэтычныя тэзісы клясыкаў камунізму. Гэтак званы капіталістычны сьвет хутчэй ажыцьцяўляе пазытыўныя ідэі сацыялізму, чымся гэтак званы сацыялістычны лягер, які на практыцы ператварыўся ў супрацьлежнасьць таго, чаго хацелі дасягнуць клясыкі марксызму. Для камуністых актуальнай застаецца фактычна толькі ідэя сусьветнай камуністычнай рэвалюцыі, якой яны падпарадкоўваюць і якой апраўдваюць усе нутраныя цяжкасьці й супярэчнасьці. Камуністым удалося дасягнуць вялізарнай тэрытарыяльнай экспансіі, і гэта яны выкарыстоўваюць як нязьбіты доказ таго, што сьвет запраўды стаіць на парозе поўнай камунізацыі. Аднак пасьляваенны застой на гэтым адрэзку выклікаў ў шмат каго і сярод камуністых сумлевы, ці й гэтая апошняя камуністычная ідэялягічная ўстаноўка правільная, ці будзе яна пацьверджаная жыцьцём.

Пакуль камуністыя адзначалі адну перамогу за другой на вонкавапалітычнай сцэне, паняволеным народам не заставалася нічога іншага, як здысцыплінавана машыраваць пад камуністычным сьцягам да новых «перамогаў», спадзяючыся, што ў будучыні ўсё-ж магчыма палягчэе. Таму шмат будзе залежыць ад таго, якую пазыцыю да далейшай камуністычнай экспансіі будзе займаць Захад. Калі ён цьвёрда й рашуча скажа «стоп», ні кроку наперад, і на кажную камуністычную акцыю адкажа ня ўступкай, але рашучай контракцыяй і гэтым спаралізуе апошні камуністычны імпульс — ідэялягічны крызіс камунізму будзе непаўстрымна паглыбляцца. Рэвізія камуністычнай тэорыі, якая ўжо працягваецца ад даўжэйшага часу навет у Савецкім Саюзе, будзе йсьці далей.

Мы мусім сабе ўсьведамляць, што насельніцтва Савецкага Саюзу — асабліва маладое пакаленьне — параўнальна высока адукаванае. Карміць яго далей ашуканствам нельга будзе ў бесканечнасьць. Яно хоча ведаць праўду, хоча само пабачыць, параўнаць і зрабіць свае ўласныя высновы. Зялезная заслона — вялікая перашкода для гэтага, але ўжо не такая, як раней.

Варта асобна падкрэсьліць важнасьць гэтак званай «дэсталінізацыі» — у першую чаргу ў Савецкім Саюзе. Хочачы ці ня хочачы, Хрушчоў адкрытай кампаніяй супраць Сталіна раскрыў вочы навет тым, якія сьлепа верылі ў ідэяльнасьць савецкага ўраду, што на працягу дзесяцігодзьдзяў — фактычна на працягу ўсяе савецкае ўлады — гэтак званае «найсправядлівейшае» й «найшчасьлівейшае» грамадзтва ў сьвеце будавала кліка бандытаў на чале із Сталінам. Думаючы чалавек ня можа не паставіць сабе пытаньня: што добрае можа вырасьці на базе грамадзка-палітычнага ладу, які стварылі і якім кіравалі бандыты? Гэта яшчэ адна прычына, дзеля якое ціск зьнізу ў кірунку лібэралізацыі будзе працягвацца, бо ў сувязі з дэсталінізацыяй ён, можна сказаць, часткова атрымаў афіцыйную санкцыю.

Актуальнае цяпер пытаньне крызісу сельскай гаспадаркі ў СССР. Хрушчоў ня прызнаецца, што гэта крызіс, але крызіс ёсьць. І замест таго, каб неяк стымуляваць прыватную ініцыятыву сялянства, адсутнасьць якой была й застаецца галоўнай прычынай правалу калгасна-саўгаснай сыстэмы, Хрушчоў пачаў шукаць выхаду ў мерапрыемствах, якія могуць толькі пагоршыць палажэньне. Узмоцніўшы партыйны кантроль над калгасамі, ён можа больш выціснуць сельска-гаспадарчых прадуктаў для дзяржавы, але гэтым ён ня выкліча сымпатыяў у калгасьнікаў і не падыме іхнай зацікаўленасьці ў калгаснай вытворчасьці. У выніку навет павялічэньня капіталаўкладаў у сельскую гаспадарку ня здолее палепшыць палажэньня і можна не сумлявацца, што хуткая будучыня яшчэ раз пацьвердзіць банкроцтва калектыўнай сыстэмы сельскай гаспадаркі. Паўстае пытаньне, як доўга будуць цярпець гэтыя балючыя экспэрымэнты падсавецкія народы. Яны добра ведаюць, што **выхад** з сельскагаспадарчага крызісу **існуе.**

Для характэрыстыкі **нацыянальнай** праблемы ў Савецкім Саюзе падамо тут выказваньні аднаго амэрыканскага прафэсара. Ён нядаўна наведаў Савецкі Саюз. Нацыянальным пытаньнем займаўся ўжо даўжэйшы час. І ён заявіў,

**(Заканчэньне на 2-ой бачыне)**

# Дэнацыяналізацыя беларускай драматургіі й тэатру

Дыскусія аб беларускай драматургіі й тэатры, якая цяпер разьвіваецца на бачынах «Літаратуры і Мастацтва», мае на мэце мабілізаваць беларускіх драматургаў і дзеячоў тэатру на выконваньне партыйных заказаў, якія былі высунутыя на XXII партыйным зьезьдзе й новай праграмай камуністычнай партыі. Сярод сугучных гэтым заказам пажаданьняў і прапановаў пад адрысам драматургаў і дзеячоў тэатру, ад часу да часу прабіваюцца й галасы супрацьлежныя ім, у найлепшым выпадку галасы, якія ня йдуць па лініі гэтых заказаў. Гэта ў першую чаргу скаргі на тое, што сучасная беларуская драматургія зьяўляецца беларускай адно толькі з назову, што яна адарвалася ад беларускай народнай глебы й страціла свой нацыянальны характар.

Гэтак адзін з удзельнікаў дыскусіі, пісьменьнік Барыс Бур'ян у артыкуле «Каб не згасаў агонь творчасьці», надрукаваным у «Літаратура і Мастацтва» за 9 лютага, зь няскрыванай іроніяй скардзіцца: «Мне здаецца, што многія сучасныя нашы п'есы назваць беларускімі можна толькі з агаворкамі. Калі я чытаў «Выгнаньне блудніцы» Шамякіна, «Твой сьветлы шлях» Маўзона, «Любоў, Надзея, Вера» Васілеўскага, мяне не пакідала ўражаньне, магчыма, дзіўнае, але вельмі пераканаўчае: драматургі паклалі ў васнову сюжэтных пэрыпэтыяў падзеі, якія маглі адбывацца ў вёсках або на новабудоўлях нашай рэспублікі, а маглі і быць у суседніх з намі мясьцінах, або ўвогуле маглі нідзе не адбывацца. Адбор канфліктаў, сутыкненьняў і супярэчнасьцяў паміж дзеючымі асобамі не падказваўся асаблівасьцямі, якія характэрны абавязкова для нашай рэспублікі. У характарах герояў гэтых п'ес амаль няма рысаў, па якіх гледачы беспамылкова пазналі-б, што гэта Беларусы.»

Як ведама, апрача рэспубліканскіх і сталічных тэатраў у Менску, у Беларусі існуе пяць абласных правінцыяльных сталых тэатраў: у Гомелі, Горадні, Магілёве, Бабруйску й Берасьці. З успомненага артыкулу Барыса Вур'яна даведваемся пра неспадзяваны для нас кур'ёз, пайменна, што з гэтых пяці тэатраў аж «чатыры... працуюць на расейскай мове.» Гэтак у практыцы выглядае «нацыянальная паводля формы» беларуская культура! Беларускія драматургі пішуць для беларускіх гледачоў свае п'есы пабеларуску. Але каб паказаць іх беларускаму гледачу, тэатр перакладае гэтыя п'есы на расейскую мову. Дык ці-ж ня гучыць гэта парадаксальна, як зьдзеклівая насьмешка над элемэнтарнымі нацыянальнымі пачуцьцямі Беларусаў? **Аўтар артыкулу пісьменьнік Бур'ян, із** зразумелых прычынаў, ня мог сказаць гэтага. Затое ён зьвярнуў увагу на іншы, ня менш істотны мамэнт. «Пры перакладах шмат чаго губляецца, – піша ён, – навет з таго каларыту, які быў у аўтарскім арыгінале. І п'есы ўжо нельга катэгарычна лічыць **беларускімі** толькі на тэй падставе, што яны **былі** напісаны пабеларуску».

А вось галасы звычайных гледачоў – настаўніцы Пліскай сярэдняй школы І. Хлусавай і вучаніцы-дзесяціклясьніцы В. Івонінай із Смалявіцкага раёну, якія прыпадкова прылучыліся да тэатральнай дыскусіі. У «Літаратуры і Мастацтве» за 6-га сакавіка яны скардзяцца: «Вельмі бывае няпрыемна, калі ў дыялёгу артыста пачынаеш улоўліваць словы зь неўласьцівым беларускай мове акцэнтам. А часам артысты ня прытрымліваюцца тэксту п'есы і ўжываюць рускія словы». І гэта ў вядучым беларускім тэатры Менску й цэлае рэспублікі, які носіць пачэсны назоў тэатру імя Янкі Купалы! Дык што ж тады гаварыць аб іншых тэатрах?!

Прылучаючыся да тэатральнай дыскусіі, Д. Жураўлёў з болем сьцьвярджае такое-ж зьявішча і ў рэпэртуары Беларускай радыяэстрадна-канцэртнай аркестры. У артыкуле «Мастацтва вясёлага жанру», зьмяшчаным у «Літаратуры і Мастацтве» за 9-га лютага, ён піша: «Даволі значнае месца ў рэпэртуары займаюць апрацоўкі беларускіх народных танцаў. Але гэта толькі пачатак. Нацыянальная тэма ў эстраднай музыцы нашай рэспублікі яшчэ вельмі далёкая ад свайго раскрыцьця. А між тым, якія сапраўды бязьмежныя магчымасьці адкрывае яна перад кожным дапытлівым і шчырым мастаком!»

Але ўва ўсёй шырыні й глыбіні паставіў пытаньне нацыянальнага характару сучаснай беларускай драматургіі паэта Алесь Звонак. У артыкуле «Пагаворым шчыра», надрукаваным у «Літаратуры і Мастацтве» за 26-га студзеня, якім і распачалася дыскусія аб беларускай драматургіі й тэатры, Звонак раскрыў усю бледнасьць, мастацкую й духовую ўбогасьць, шаблённасьць і непераканаўчасьць сучаснай беларускай драматургіі, а прычыну ўсяго гэтага знайшоў у наступным: «Адкрыта і непрадузята хочацца сказаць, што асноўнай прычынай няпэўнай творчай пазыцыі тэатру, а дакладней – частковай страты ім сваіх творчых пазыцыяў зьяўляецца адступленьне тэатру ад тэй традыцыі народнасьці, тэмы гэроіка-рамантычнага гучаньня, якія суправаджалі тэатр на ўсім яго шматгадовым шляху. Зь першых гадоў свайго існаваньня гэтыя тэмы гучалі лейтматывам у творчай дзейнасьці тэатру. Спэктаклі «Раськіданае Гняздо», «Паўлінка» Я. Купалы, «Машэка», «Кастусь Каліноўскі», «Каваль-Ваявода», «Перамога» Я. Міровіча, «На Купальле» М. Чарота, «Чырвоныя кветкі Беларусі» В. Гарбацэвіча... былі прасякнуты глыбокай народнасьцю, авеяны гэроіка-рамантычнай узьнёсласьцю, былі тою глебай, на якой вырасла акцёрскае майстэрства, вырас тэатр як своеасаблівая, глыбока нацыянальная і рэвалюцыйная зьява».

Пералічаныя вышэй Звонакам п'есы — гэта, як ведама, непаўторныя шэдэўры беларускага тэатральнага мастацтва 20-ых гадоў, а іхная мастацкая й ідэйная сіла выцякала якраз зь іхнай народнай традыцыі, зь беларускай нацыянальнай тэматыкі, з рамантычнай гэроікі казачна-фальклёрнага сьвету. Людзі старэйшага пакаленьня Беларусаў яшчэ й сяньня з сумам успамінаюць тыя хвалюючыя часы, калі пастаноўкі успомненых п'есаў зьяўляліся няштодзённымі падзеямі ў жыцьці беларускае сталіцы. Пазьней, як ведама, у пачатку 30-ых гадоў усе гэтыя п'есы былі забароненыя й выкінутыя з тэатральнага рэпэртуару, як «нацдэмаўскія», «нацыяналістычныя», «рэакцыйныя» й шкодныя зь ідэялягічнага й навет мастацкага гледзішча. Заклікаючы сяньня да адраджэньня нацыянальнай традыцыі ў драматургіі й тэатры, Алесь Звонак правільна паказаў той шлях, па якім мусіла-б ісьці наагул сучаснае беларускае мастацтва, калі яно ня хоча перастаць быць запраўдным мастацтвам.

**Ст. Крушыніч**



## Азнакі слабасьці Савецкага Саюзу

**(Заканчэньне зь 1-ай бачыны)**

што ягоныя назіраньні ў Савецкім Саюзе пацьвердзілі ягоныя пераканаьні, што працэс нацыянальнага адраджэньня ў Савецкім Саюзе яшчэ не закончаны, што ён разьвіваецца і йдзе да свайго завяршэньня ў сэнсе такім самым, які цяпер назіраецца на Афрыканскім і азіяцкім кантынэньце. Ён толькі ўважае, што ступень нацыянальнай сьведамасьці у народаў Савецкага Саюзу вышэйшая за сьведамасьць народаў Азіі і Афрыкі і што нацыянальны мамэнт зьяўляецца, паводля яго, наймагутнейшым фактарам, які пагражае маналітнасьці савецкай імпэрыі

Важна тут тое, што ягоныя навукова-аб'ектыўныя спасьцярогі цалкам пакрываюцца з нашымі, якія часта любяць падазраваць у тэндэнцыйнасьці.

Трэба таксама падкрэсьліць і тое, што ня гледзячы на новую партыйную праграму, якая выразна абмяжоўвае нацыянальныя формы ў Савецкім Саюзе й зусім выразна гаворыць аб хуткім зьнікненьні ўсякіх нацыянальных розьніцаў і граніцаў, гэта значыць, ня гледзячы на адкрытую русыфікацыйную палітыку, беларуская нацыянальная інтэлігенцыя ў БССР стараецца рабіць усё, што толькі можна, для захаваньня й разьвіцьця нацыянальных традыцыяў. У гэтым ёй дапамагаюць супярэчнасьці гэтай-жа праграмы, у якой гаворыцца таксама і аб далейшым разьвіцьці нацыянальных культураў і ўмацаваньні дзяржаўнай сувэрэннасьці нацыянальных рэспублікаў. Пад прыкрыцьцём вось гэтай фразы інтэлігенцыя прасоўвае часам зусім афіцыяльна тое, што яна ўважае патрэбным, каб захаваць для лепшага дня нацыянальнае аблічча свайго народу.

**А. З.**

# Сымон Будны

Перадавы беларускі асьветнік XVI стагодзьдзя Сымон Будны доўгі час савецкімі гісторыкамі і літаратуразнаўцамі быў наўмысна забыты. Ні ў энцыклапэдыях, ні ў хрыстаматыях аб ім ня прыгадвалася.

Сымон Будны быў адным з тагачасных змагароў нацыянальна-вызвольнага руху. Як і ягоны вялікі папярэднік Францішак Скарына, ён бачыў посьпех у гэтым руху, галоўным чынам, у выкараненьні невуцтва і пашырэньні асьветы. Жыцьцё і дзейнасьць Буднага праходзілі на Беларусі. Месца і дакладны час нараджэньня невядомыя. Але ведама тое, што Будны жыў і працаваў у Клецку, Нясьвіжы, Лоску, Слуцку і іншых гарадох Беларусі. Ён быў высокаадукаваны сьвятар-кальвініст, пісаў тэалягічныя творы і выступаў з крытыкай каталіцкіх догматаў. Ягоны ўплыў пашыраўся на шэраг эўрапэйскіх краінаў. Аб ім ведалі ў Расеі, Польшчы, Чэхіі, Нямеччыне, Швайцарыі, Англіі.

У 1562 годзе ў Нясьвіжы выйшлі з друку ў беларускай мове ягоныя кнігі «Катэхізіс» і «Апраўданьне грэшнага чалавека перад Богам». Праз два гады ў Лоску былі надрукаваныя ведамыя камэнтары да перакладу «Новага Запавету» і ў 1593 годзе — выдатная праца «Аб уладзе мяча». Апрача гэтага Сымон Будны напісаў яшчэ шэраг твораў, але яны ў архівах не захаваліся.

Варта адзначыць, што ў сваіх выступленьнях і пісьменьніцкай працы Будны выказваўся ня толькі, як кальвініст-рэфарматар, але ў першую чаргу, як беларускі патрыёт.

Возьмем, напрыклад, ягоны «Катэхізіс». Там на першых старонках аўтар зьвяртаецца да сыноў Радзівілаў з заклікам карыстацца роднай мовай, любіць мову таго народу, сярод якога жылі іхныя продкі. Гэтая глыбокая любоў да роднае мовы, захапленьне ейным харастом і пашана да ейнай гісторыі, клопаты аб беларускім народзе і ягонай культуры ставяць Сымона Буднага побач з Цяпінскім, Мялешкам і іншымі беларускімі дзеячамі XVI стагодзьдзя.

Аднак, ня гледзячы на вялікую ролю Сымона Буднага ў гісторыі нашай культуры, да гэтага часу аб ім замоўчвалі. І вось нарэшце яго прыгадалі. У мінулым годзе ў Менску Выдавецтва дзяржаўнага ўнівэрсытэту імя Леніна апублікавала працу Парэцкага: «Сымон Будны — перадавы беларускі мысьліцель XVI веку». Тыраж гэтай невялікай брашуры надзвычай малы — усяго 500 экзэмпляраў. Улічваючы яшчэ і тое, што кніжка надрукаваная ў расейскай мове, а значыць тыраж быў разасланы і ў іншыя рэспублікі Савецкага Саюзу, а частка і заграніцу, дык мала хто зь Беларусаў зможа яе прачытаць. Але і той, каму пашчасьціць яе мець, бязумоўна паставіцца да зьместу гэтай брашуры крытычна, з засьцярогай.

Справа ў тым, што Сымона Буднага, якога спачатку бальшавікі асудзілі як рэлігійнага асьветніка, ворага рэвалюцыйнага руху, цяпер выкарыстоўваюць у прапагандовых мэтах. Сымон Будны ўсім вядомы, як рэфарматар, ак праціўнік каталіцызму. І таму камуністыя ў сяньняшняй палітычнай сытуацыі хапаюцца за гэтую выдатную фігуру, каб выставіць яе, як ворага Ватыкану. Мала таго, аўтар кнігі Парэцкі намагаецца Буднага наагул паказаць у атэістычным сьвятле.

Ужо ў прадмове да артыкулу аб Будным, Парэцкі піша:

«Будны ўсё сваё жыцьцё змагаўся супраць рэлігійных догматаў, якія атручваюць сьведамасьць народу. Таму да дзейнасьці Буднага, як аднаго з стойкіх праціўнікаў сярэднявяковага цемрашальства, поўнасьцяй могуць быць дапасаваныя словы Карла Маркса:

«Ліквідацыя рэлігіі, як ілюзорнага шчасьця народу, ёсьць патрабаваньне ягонага запраўднага шчасьця».

Вось так у сваёй псэўданавуковай працы Парэцкі падводзіць марксыцкую базу. Дзеля хвалышаваньня характарыстыкі Буднага аўтар і далей карыстаецца цытатамі з Маркса і Энгельса. Аднак такі спосаб падмацаваньня ілжывых тэзаў аб атэізьме Сымона Буднага даволі слабы і непераканальны. Парэцкі і сам міжволі прагаворваецца. Ён піша: «Атэізм Буднага ставіцца пад сумлеў некаторымі дасьледнікамі».

І ў вадным месцы сваёй працы Парэцкі таксама сьцьвярджае супрацьлежнае сваім доказам. Ён гаворыць аб навуковай сумленнасьці Буднага, які прызнаваў заслугі і сваіх ідэйных праціўнікаў. Напрыклад, Будны пахваліў Ераніма Занхія за правільнасьць перакладу некаторых месцаў Біблії, падкрэсьліваючы, «хоць ён вялікі вораг ісьціны і Бога». Адсюль відаць, што Будны прызнаваў толькі праўду і верыў у Бога. Ён хацеў, каб Сьвятое Пісьмо было дакладна перакладзенае з гэбрайскай і старагрэцкай моваў і каб у тэксьце ня было ніякіх выкрыўленьняў і памылак. У гэтым кірунку Сымон Будны, маючы філялягічную эрудыцыю, нястомна працаваў усё сваё жыцьцё.

Дарэмныя патугі Парэцкага стварыць з тэалёга-рэфарматара вобраз бязбожніка. Яму гэта не ўдалося. Не памагло і жангляваньне цытатамі з твораў Маркса і Энгельса.

Напэўна і бальшавіцкія цэнзары заўважылі гэтую прапагандовую няўдачу і абмежавалі выпуск брашуры мізэрным тыражом.

**К. Рамановіч**



Мікола Цэлеш

# За новае шчасьце...

**(Працяг з папярэдняга нумару)**

— Каханьне пачынаецца заўсёды з самых чыстых намераў, — зазначыў Зьміцер.

— І ў чыстых сэрцах, — дадаў Алесь.

— Ну, дык вып'ем за каханьне!

І яны чокнуліся й выпілі і зноў напоўнілі чаркі, а цётка Магда пачала далей:

— Я не ўтаіла ад маіх бацькоў таго, што ў гэты дзень адбылося із мной. Прыйшоўшы дахаты, я весела падскочыла да маці і сказала: «Ага, а я сабе жаніха знайшла!» Маці не падала віду, што яе гэта зьдзівіла ці ўстрывожыла — яна добра ведала мяне. І яна ў паўголас спытала, я думаю хаваючы ў душы ўсьмешку: — «Хто-ж ён такі?» — «Яміла, ага! Я падарыла яму слоніка!» Бацька, які ўсё гэта чуў, выкрыкнуў: — «Што яна там пляце?» — «Ды вось, жаніха сабе знайшла, і слоніка яму падарыла! — адказала маці. — Яміла нейкі».

— «Яміла?! О, гэта пэўна сынок, таго бедака, Арцёма Канцавога». І потым ужо досыць пагрозьліва: — «Вучыцца трэба, а не пра жаніхоў думаць у тваю пару! Вось адвязу ў места ў гімназію, дык там табе не дазволяць бібікі біць!» Увесну я скончыла нашу вясковую школу і на наступны год мяне й праўда адвезьлі ў гімназію. Тут мяне абкружалі зусім іншыя ўмовы і людзі: часам добрыя, гатовыя дапамагчы, часам хітрыя і сквапныя. Бальшыня гімназістачак больш марыла пра хлопчыкаў, чым пра надакучлівыя заняткі. Кружылі й каля мяне гімназісьцікі ды сэмінарысьцікі. Але я заўсёды памятала пра свайго Ямілу.

— Цікава! — зазначыў Зьміцер.

— Дзеці неяк больш пачуцьцём арыентуюцца ў жыцьці, — заключыў Алесь.

— У вёску я прыязджала толькі на канікулы: на Каляды — два тыдні, на Вялікдзень — тыдзень і ўлетку на два з паловай месяцы. Але спаткацца зь Ямілам мне ніяк не трапляласся. Прычынай гэтаму, я думаю, была вялікая розьніца ў нашым сацыяльным стане: бацька мой паходзіў із шляхты, быў аб'езчыкам і меў добрую гаспадарку. Параўнаўча із звычайнымі вяскоўцамі, мы жылі па-панску. Калі здараліся выпадкі, я пыталася ў вяскоўцаў пра Ямілу, але нічога не магла даведацца: «вучыцца недзе!». Часам я наўмысьна рабіла падарожжа праз усю вёску, каб спаткаць яго, але ў мяне ніколі не ставала адвагі зайсьці да іх у хату. Так прайшлі гады. І вось лёс нас зьвёў! Я была ўжо ў восьмай клясе. Лета, як звычайна, праводзіла ў вёсцы. Неяк раз я мыла бялізну, стоячы на кладцы над рэчкай. На мне была гімназійная форма: вось тая сіняя спаднічка зь белай блюзкай. Гледзячы ў ваду, я боўтала ў ёй шматамі й пастуквала пранікам. І раптам, бачу я, едзе воз зь сенам. А каля яго хлопец ідзе — высокі такі й тонкі, як дубец. На галаве хлапца форменны картуз гарадзкога вучылішча — відаць і цэшка на ім. — Гэта-ж Яміла! — бачу я і ня веру сваім вачам. І вельмі шкода мне стала, што я цяпер не на дарозе. А адазвацца да яго ўсё-ткі неяк сорамна. А воз цяжкі і конік ледзьве цягне яго пад гару. І раптам бачу, ірвецца гуж. Конік выскоквае з аглабель і воз пачынае каціцца ўніз. Спачатку мне было неяк сьмешна, калі хлопец замітусіўся каля возу, каб ня даць яму скаціцца ў рэчку. Але потым, бачу, пахне тут бядой: ня толькі воз можа апынуцца ў рэчцы, і тут якраз глыбокай, але пацягне за сабой і чалавека. Тады я кідаю сваю бялізну і, басанож, як была бягу яму на дапамогу. Так-сяк нам удалося воз затрымаць і мы, дзякуючы гэтаму, апынуліся побач. Стаіць перада мной пасаромлены Яміла, апусьціўшы ўніз, як і тады ў школе, свае цудоўныя вочы. Я гляджу на яго й заўважаю — прабіваюцца вусікі, ды такія прывабныя, крышачку рудзенькія — і твар ягоны ад гэтых вусікаў стаў яшчэ больш пякнейшым. І хочацца мне дакрануцца да гэтых вусікаў. І каб ухіліцца ад спакусы, я таксама пачынаю глядзець у дол. І ціха кажу: — «Яміла, я шмат разоў бачыла вас ува сьне!». Ён узьняў на мяне свае вочы, і я заўважыла ў іх радасьць. — «Магда, колькі год прайшло з таго часу, а я вашага слоніка хаваю і да сеньня!» — адказвае ён. І потым зноў апускае вочы. Мне здалося, што ён глядзіць на мае босыя ногі, ружаватыя ад халоднай вады. І я ня ведаю, куды мне іх схаваць. Я бянтэжуся, але адыйсьціся не магу ад яго, так вось, больш нічога не сказаўшы. І я мармачу: — «Вам... пагражала нябясьпека?». — «Гэта нішто, Магда, гэта ўсё дробязі, — адказвае ён, як зусім дарослы, — параўнаўча... з тым, што...» Мне, раптам, стала страшна, што ён можа сказаць усё і я зрываюся зь месца й хуценька бягу да свае бялізны. І, ужо адбегшыся, крычу яму:

— «На наступным тыдні сьвята. На Купальле! Прыходзьце да кастра!».

— Як ён патрапіў у гарадзкое?

— Потым я даведалася пра гэта. У вясковай школе ён выявіў надзвычайныя здольнасьці і быў прыкладным у паводзінах. Інспэктар школ, які ня раз прыязджаў туды, а потым быў і старшынёй экзамінацыйнай камісіі, дамогся таго, што Ямілу прынялі ў кляштар нашага павятовага места, каб ён мог вучыцца далей.

— Цікава!

— Вось гэтыя «гужы» й зьвязалі нас! Гэтае лета мы сустракаліся вельмі часта. А ў наступныя гады жыцьцё закруцілася — завярцелася... Яміла патрапіў у войска, быў на дзянікінскім фроньце. І вярнуўся ў вёску толькі праз чатыры гады. Я была ўжо настаўніцай. Мы зноў пачалі сустракацца. Ён часта прыходзіў да нас. Бацька, здаецца, глядзеў на гэта прыхільна. Але калі я загаварыла пра шлюб зь Ямілам, ён закрычаў: «— Праз труп мой хіба пярэйдзіце!» — Не хацелася ісьці супраць волі старога і мы ўмовіліся, што ён паступіць вучыцца на ўнівэрсытэт, а я, як і раней, буду настаўнічаць.

# Сакавіковая гадавіна ў вольным сьвеце

## Чыкаго

44 ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі Беларусы Чыкага й ваколіц адсьвяткавалі вельмі ўрачыста, дзякуючы актыўнай дзейнасьці Згуртаваньня Беларусаў у Штаце Ілінойс ды Арганізацыі Моладзі ў Шт. Ілінойс.

Моладзь займалася прапагандай. Былі разасланыя, ўва ўсе рэдакцыі тутэйшых газэтаў інфармацыі аб змаганьні нашага народу за незалежнасьць, аб стварэньні ў 1917 г. незалежнай Беларускай Дэмакратычнай Рэспублікі ды аб абвешчаньні яе незалежнай дзяржавай актам 25 сакавіка 1918. Дзякуючы гэтым інфармацыям, многія газэты так ангельскія, як і іншамоўныя зьмясьцілі артыкулы аб беларускім нацыянальным сьвяце 25 сакавіка. Апрача таго Арганізацыя Моладзі атрымала ад Бурмістра м. Чыкаго сп. Дэйлі ўрадавую ўрачыстую праклямацыю 25 сакавіка Беларускім Днём Незалежнасьці. Вечарам 24 сакавіка Моладзь яшчэ ладзіла беларускую радыё-перадачу, прысьвечаную вялікаму нашаму нацыянальнаму сьвяту.

Згуртаваньне Беларусаў у Шт. Ілінойс падрыхтоўвала сьвяточную Акадэмію, а так-жа раніцай 25 сакавіка перадала ў радыёгадзіне сп. М. Варонкі адумысную перадачу аб змаганьні беларускага народу за сваю незалежнасьць ды беларускія нацыянальныя песьні.

Нацыянальнае сьвята ў нядзелю 25 сакавіка пачалося Божай Службай у Царкве Хрыста Спаса а гадз. 10, якая закончылася адумыснымі мольбамі за Беларускі Народ. У прыгожым казаньні праф. Ян Тарасэвіч параўняў Добравешчаньне Дзевы Марыі аб народжаньні Хрыста Збаўцы з добравешчаньнем Беларускага Народу аб нараджэньні сваӗй вольнай і незалежнай Рэспублікі. Далей заклікаў да хрысьціянскага патрыятызму й працы на карысьць свайго народу, каб ён змог хутчэй вызваліцца зь бязбожнай няволі.

Пасьля паўдня ў залі Бел. Культурна-Рэлігійнага Цэнтру адбылася ўрачыстая Акадэмія. Перапоўненая заля мела асаблівых гасьцей: чэскую дэлегацыю ад Чыкаскага нацыянальнага гурту ды ад міжнароднай арганізацыі «Арол» на чале з сп. сп. Рыхтэрам, Крампэлям і Жыдэкам. Дэлегацыя перадала арганізатарам Акадэміі прывезены з Аўстраліі беларускі сьцяг арганізацыі «Арла», як сымбаль дружбы й супольнага змаганьня за вызваленьне ад бальшавізму. Гарачыя прамовы чэскай і беларускай стараны дапаўнялі гэтую перадачу. Сьцяг прадстаўляе ня толькі вялікую нацыянальную, але і мастацкую цэннасьць. На адным баку нашыты абраз Жыровіцкай Божай Мацеры, а на другім на фоне нацыянальнага сьцягу Пагоня. З прывітаньнямі выступаў і прадстаўнік ад арганізацыі незалежных Палякаў сп. Гарцай.

Даклад на тэму дня чытаў сп. В. Пануцэвіч, разьвіваючы тэму аб самавызначэньні нашага народу зьверху й зьнізу. Самавызначэньне зьверху ад тагачасных пануючых слаёў адбылося ў самай глыбокай гісторыі нашага народу й яно выразілася так у Полацкай Дзяржаве, як і Вялікім Княстве Літоўскім. Гэты пэрыяд закончыўся ў канцы 18 веку маскоўскім захопам нашых зямель і народу ды адыходам нашых вярхоў ад ідэі адбудовы сваӗй незалежнай дзяржавы. Тады пачалося самавызначэньне нашага народу зьнізу ад радавой шляхты, служылых людзей, сялянства і мяшчанства ды іхняй інтэлігенцыі. Гэтае самавызначэньне закончылася выяўленьнем волі ўсяго нашага народу на Ўсебеларускім Кангрэсе 1917 г. аб стварэньні сваӗй дзяржавы БНР ды ў вабвешчаньні яе незалежнай 25 сакавіка 1918 г. Цяпер вядзецца толькі вызвольная барацьба за зьдзейсьненьне гэтай народнай волі — вось галоўныя думкі дакладу.

У канцэртнай частцы выступалі школьныя дзеці зь ігрой на піяніне, зь песьнямі й дэклямацыямі. Пасьля нашыя сьпевакі салістыя Надзея Градэ і Стэфан Віцік. Сп. Н. Градэ выканала арыю з опэры «Галька» Манюшкі, раманс «Ты прыдзі» і «Палыночак». Сп. С. Віцік: арыю з опэры «Дзяўчына» Пучыняга, раманс «Па дзяўчыне любай» і «Зялёны дубочак». На заканчэньне артыстыя дуэтам выканалі «Маёвую песьню» Ромбэрта ды нашую «Лявоніху». Усе нумары былі цёпла прынятыя слухачамі. Музычнай часткай кіраваў праф. М. Куліковіч.

На заканчэньне сьвята адбыўся смачны абед, прыгатоўлены нашымі гаспадынямі пад старшынствам сп. Анны Петрык. Бяседа працягнулася амаль да поўначы.

Нашыя браты-Беларусы з БАНРады ладзілі Сьвяткаваньне ў сваӗй царкоўнай залі зараз па-паўдні, так што была нагода ўзаемна пагасьціць.

**Прытымбытны**

## Дэтройт

У Дэтройце невялікая беларуская калёнія, калі лічыць зарганізаваных Беларусаў, але вельмі багатая мастацкімі сіламі. Апрача Драматычнай Групы Самадзейнасьці, што ўдала рэпрэзэнтуе сябе сваімі сцэнічнымі выступленьнямі ў Дэтройце й іншых беларукіх асяродзьдзях Амэрыкі й Канады, нашая дэтройцкая калёнія мае некалькі выдатных сьпевакоў і музыкаў. Таму сьвяткаваньне гадавіны 25-га Сакавіка адзначалася багатай вакальнай праграмай.

Сьвяткаваньне адбылося ў суботу 10-га сакавіка. Апрача сяброў аддзелу БАЗА й мясцовых гасьцей, прысутнічалі й замежныя госьці: Прэзыдэнт Рады БНР інж. Мікола Абрамчык і сем асобаў з Канады. Акадэмію вёў сп. Я. Мазура, які сказаў вельмі палкую прамову й весела вёў канфэрэньсье ў мастацкай частцы. Галоўным прамоўцам быў прэз. Абрамчык, які зьвярнуў увагу на значаньне Акту 25-га Сакавіка, на нашыя заданьні, што выплываюць із самога зьместу Акту, ды разгарнуў абраз штодзённага змаганьня за выкананьне гэтых заданьняў.

Наступным прамаўляў сп. В. Пляскач — заступнік старшыні БАЗА. Ягоная гарачая патрыятычная прамова выяўляла дух Вялікага Акту ды зьлівалася ў унісон з урачыстым настроем.

У мастацкай частцы вызначаліся: сп. Жарскі прапяяў пад собскі акампаніямант акардыёну «Я ад вас далёка» Я. Купалы, муз. М. Куліковіча; сп-ня Вера Арцюх прапяяла солё «Варта жыць» Н. Арсеньневай і «Васілёчкі» — дуэт із сп-няй Тацянай Жылік; жыватворчая дэклямацыя дваццацігадовага юнака, які нядаўна вырваўся з Савецкай Беларусі; далей былі выступленьні сп. Я. Мазуры — солё і ў дуэце, ды ўзноў сп-ні Арцюх і сп. Жарскага.

Пасьля ўрачыстай часткі адбыўся таварыскі баль, які прайшоў у вельмі вясёлым настроі. Наатул Дэтройт выйшаў на шырэйшыя воды, але нічуць не затраціў на сваӗй шчырай гасьціннасьці.

**Госьць**

## Лес Анджэлес

За колькі тыдняў да сьвяткаваньня дня абвешчаньня незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі мясцовым і фэдэральным прадстаўніком уладаў Каліфорніі былі перасланыя інфармацыі аб Беларусі й значэньні 25-га Сакавіка ў беларускім вызвольным руху. Сакавіковая ўрачыстасьць у Лёс Анджэлесе былаладжаная супольна мясцоваю беларускай калёніяю ў нядзелю 25 сакавіка сёлета. Акадэмія пачалася малітваю «Магутны Божа», пасьля якой быў праслуханы амэрыканскі нацыянальны гімн. Кіраваў урачыстасьцю сп. Х. Адпаведны рэфэрат прачытаў сп. С. Пасьля ўшанаваньня памяці палеглых за ідэялы 25-га Сакавіка хвілінаю цішыні, былі прачытаныя прывітаньні ад прадстаўнікоў амэрыканскіх уладаў і беларускіх арганізацыяў. Пісьмова віталі Беларусаў: мэр места Лёс Анджэлес сп. Ёрты, губэрнатар Каліфорнійскага штату сп. Браўн, сэнатар Кікэл, кангрэсмэны Госмэр, Кінг і Мэк Донаф ды галоўныя ўправы БАЗА і БККА. На просьбу старшыні мясцовага аддзелу БАЗА кангрэсмэн Мэк Донаф зланжыў 22 сакавіка прыгожае асьветчаньне ў Кангрэсе аб імкненьні Беларусаў да незалежнасьці, якое было надрукаванае ў кангрэсавым дзёньніку. Кангрэсмэн Мэк Донаф закончыў сваё асьветчаньне словамі: «Ня глядзячы на жудасны ціск савецкай Расеі, беларускі народ ня спыніў свайго геройскага змаганьня за аднаўленьне незалежнасьці. З нагоды 44-ых угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларусі амэрыканскі народ падзяляе надзею й моліцца разам з усімі Беларусамі ў цэлым сьвеце, каб Беларусь як найхутчэй здабыла назад сваю свабоду й незалежнасьць».

Пасьля афіцыяльнай часткі адбыліся дэклямацыі вершаў дзецьмі. Люся Вініцкая прадэклямавала «25 Сакавіка» і «Я дзяўчына вялікая, Аня Вініцкая «Жураўель», Ядзя Найдзюк — «Я малая Беларуска», а Аня Стус — «На даліне, на лужочку». Урачыстасьць закончылася нацыянальным гімнам «Мы выйдзем шчыльнымі радамі». Сьвяткаваньне было завершанае банкетам, падчас якога беларускія народныя й патрыятычныя песьні паднялі на духу ўдзельнікаў і натхнілі іх вераю ў лепшую будучыню беларускага народу.

**Прысутны**

## Мэльбурн

У нядзелю 25-га сакавіка сёлета Беларусы гораду Мэльбурну й штату Вікторыя ўрачыста адзначылі 44-ую гадавіну абвешчаньня вольнай і незалежнай Беларускай Народнай Рэспублікі.

Урачыстае сьвяткаваньне ладзіў агульна-грамадзкі Камітэт. Урачыстая Акадэмія распачалася а 3-ай гадз. папаўдні ў вялікай, перапоўненай па берагі, залі. З ганаровых гасьцей на сьвяткаваньні прысутнічалі сэнатар Мак Манус, сэнатар Рэйлі, старшыня Аўстралійскага Камітэту АБН сп. Коцюмбас, старшыня Украінскай Грамады сп. інж. Шэмет. Пісьмовыя прывітаньні прыслалі сэнатар Л. М. Канэ, сакратар Дэмакратычнай Лейбэр Партыі Аўстраліі сп. Даўлінг, Рада Рэпрэзэнтацыі Студэнтаў Мэльбурнскага ўнівэрсытэту.

Урачыстую Акадэмію адчыніла сп.Э. Яцкевіч, старшыня Камітэту. Зь вялікім дакладам на тэму дня й сучаснага міжнароднага палажэньня выступіў сп. Данат Яцкевіч. Дакладчык адзначыў, што беларускі народ ніколі ня зрокся й не зрачэцца ў будучыні сваӗй волі жыць незалежным і вольным жыцьцём у сваей незалежнай дзяржаве.. Далей дакладчык зазначыў, што камунізм ёсьць найзьлейшым ворагам Беларусі ўжо 44 гады, а сяньня ён ёсьць вельмі небясьпечны й усяму вольнаму сьвету, у тым ліку й Аўстраліі. На заканчэньне дакладчык зьвярнуўся з заклікам да задзіночаньня сілаў дзеля станоўкага змаганьня супраць камунізму ў вабароне Аўстраліі й здабыцьця незалежнасьці Беларусі. Даклад сп. Яцкевіча быў перакладзены й прачытаны ў ангельскай мове студэнткай матрыкуляцыі Аліцыяй Яцкевіч.

Пасьля гэтага прамаўляў сэнатар Фэдэральнага Сэнату Мак Манус, які прывітаў Беларусаў зь вялікім сьвятам і адзначыў іхны ўдзел у жыцьці шпарка прагрэсуючай Аўстраліі. Навязваючы да словаў дакладу, Сэнатар сказаў, што Беларусы ўжо не адны ў змаганьні супраць камунізму, бо супраць яго змагаецца ўсё лепшае, што жыве. Ён закончыў запэўненьнем, што Бог дасьць хутка настане той дзень, што Беларусь будзе вольнай і незалежнай, бо гэта гарантуецца Картай Задзіночаных Нацыяў ды Божымі й людзкімі правамі.

Тады прамаўляў Сэнатар Рэйлі, які сказаў, што ён мала ведаў аб Беларусі, але за апошнія гады шмат навучыўся. Заклікаў Беларусаў браць якнайактыўнейшы ўдзел у аўстралійскім палітычным і грамадзкім жыцьці, бо гэта найлепшая дарога да ўзаемнага пазнаньня й зразуменьня. На заканчэньне Сэнатар Рэйлі прасіў Усемагутнага Бога прысьпешыць дзень вызваленьня Беларусі.

Напасьледак прамаўлялі старшыня Камітэту АБН сп. Коцюмбас і старшыня Ўкраінскай Грамады сп. Шэмет.

Пасьля кароткага перапынку наступіла мастацкая частка. Беларускі хор пад кіраўніцтвам сп-ні Яцкевіч выканаў некалькі патрыятычных і народных песьняў, а драматычны гурток пад кіраўніцтвам сп. сп. Яцкевіча, Сідлярэвіча й Говара паставіў п'еску Д. Баяна «Бяссонны Менск». Гэты паказ перанёс прысутных у векапомную ноч з 24 на 25 сакавіка ў сталічны Менск на пляц Волі, дзе адбываўся трыумф незалежнасьці. Песьняй Янкі Купалы «Не пагаснуць зоркі ў небе» закончылася п'еса, а беларускім і аўстралійскім дзяржаўнымі гімнамі — Акадэмія.

Пасьля Акадэміі Камітэт запрасіў гасьцей і артыстых на скромнае прыняцьце, падчас якога падыймаліся тосты за Беларусь і Аўстралію. Сэнатар Мак Манус і маленькая Ефрасіньня Яцкевіч пагасілі сьвечкі на прыгожым торце «Беларусь».

Трэба сказаць, што сьвяткаваньне гадавіны Сакавіка адбылося зь вялікім посьпехам і паслужыць важным фактарам у задзіночаньні ўсіх беларускіх сілаў у вадну дружную сям'ю. На гэтым месцы застаецца падзякаваць Камітэту, артыстым, а так-жа Спадарству Малочкаў і Шэкаў за ўложаную працу. Жыве Беларусь! — хай ім будзе ў падзяку.

**Данат Вэтэран**

### МАНЧЭСТАР

Беларуская калёнія ў ангельскім прамысловым горадзе Манчэстары адзначыла гадавіну 25-га Сакавіка ў нядзелю 25-га сакавіка сёлета. Малебен і паніхіду па загінуўшых змагарох за вольнасьць Беларусі адслужыў а. пратаярэй З. Палякоў (Казак) у казацкай капліцы, а пасьля сказаў прыгожае казаньне, прысьвечанае гэтаму дню.

**Змагар-працаўнік**

### МЮНХЭН

Сьціплая колькасна беларуская група ў Мюнхэне адзначыла гадавіну 25-га Сакавіка ў нядзелю 25 сакавіка сёлета. Спачатку рэлігійны апякун Беларусаў у Нямеччыне а. Ул. Салавей адправіў у касьцеле сьв. Паўлы сьвятую імшу й сказаў вельмі шчырае й глыбока патрыятычнае казаньне. Пасьля за супольным сталом прысутныя выслухалі кароткі даклад сп. Ю. Сенькоўскага.

**М-ец**

**(Заканчэньне ў наступным нумары)**



**ХРОНІКА БЕЛАРУСКАГА ЖЫЦЬЦЯ НА ЧУЖЫНЕ — ГЭТА ПАКАЗЬНІК НАШАЕ ГРАМАДЗКАЕ ЖЫЦЬЦЯЗДОЛЬНАСЬЦІ Й ДАКУМЭНТАВАНЬНЕ НАШАЕ ПРАЦЫ, ТАМУ НЕ ПАВІННА БЫЦЬ АНІВОДНАЕ ГРАМАДЗКАЕ ПАДЗЕІ, ЯКАЯ-Б НЯ БЫЛА АДЦЕМЛЕНА Ў БЕЛАРУСКАЙ ПРЭСЕ. ПІШЭЦЕ Ў «БАЦЬКАЎШЧЫНУ»!**

---

Мы спадзяваліся, што пасьля гэтага бацька ўжо ня будзе пярэчыць нам. Урэшце, мары збыліся: унівэрсытэт ён скончыў, і бацька ўжо больш не пратэставаў. Мы наважылі адгуляць вясельле ўвосень, калі ўсяго поўна й людзі вызваляюцца ад палявых працаў. Мне ўжо падбіралася пад трыццаць. Я заказала сабе вось гэтую сукенку, набылі пярсьцёнкі. Каб ня даць магчымасьці людзям гаварыць рознае пра майго бацьку, браты мае, а вашыя бацькі, паклапаціліся зрабіць вясельле на славу: было падрыхтавана шмат усякіх закусак, закуплена рознага пітва, каб хапіла для ўсіх, хто-б не зайшоў у хату. Я выпрасіла ў начальства на тры тыдні адпачынак. Настаўнічала я тады кілёмэтраў за дваццаць ад дому, і па мяне павінны былі прыехаць, каб забраць дадому. І вось...

Тут голас Магды абарваўся і яна ўхапілася за сэрца. Адзін з птушанятак кінуўся да вядра з вадой. Другі таксама замітусіўся, але яна папярэдзіла:

— Нічога! Ужо ўсё прайшло. І пачала далей: — І вось, бачу я праз вакно, да кватэры, дзе я жыла, пад'язджае фурманка. Зь яе вылазіць адзін наш вясковец, бярэць вас абодвых, загорнутых у хусткі, на рукі і нясецьда мяне. Сэрца маё пачула нешта ня добрае, і я кінулася яму насустрач. — «Нічога такога!» — адказвае ён спакойна. І толькі тады ўжо, калі паставіў вас на падлогу ў маім пакоі, сказаў: — «Усё перавярнулася дагары нагамі!» — і падаў мне вось тую самую пісульку...

Усе ўтрох доўга маўчалі.

— ...Памятаю, сядзела я тады, вось гэтак, склаўшы перад сабой гэтыя рэчы, бяз жадных рухаў, бяз жадных думак і пачуцьцяў, бо ня было ўжо чакаць ніадкуль ніякай дапамогі й радасьці. Сядзела й чакала яго, бо ведала, што ён паведамлены аб гэтым і зьявіцца неадкладна. А вы, як тыя выкінутыя з гнязда птушаняты, распаўзьліся нейдзе па двары. І раптам, ты, Алесь, прыбягаеш і кажаш: — «Цёця Магда, а Зьміцер палез на плот, каб адшчыпнуць сьліваў!» А яму было ўсяго два гады няпоўных. І які-ж гвалт я павінна была ўчыніць над сабой, каб прымусіць сябе забыць сваё асабістае гора і адказаць, што-небудзь, табе, не пакрыўдзіўшы вас абодвых. І я паклала сваю руку табе на галаву і, памятаю, прыдушаным голасам сказала: — «Ідзі й скажы яму, што сьліваў у хаце, колькі ён хоча, і хай ня лезе на плот!»

Алесь і Зьміцер пераглянуліся.

— А ўвечары прыехаў Яміла. Калі я пачула ягоныя крокі на ганку, мне здавалася, што я не перажыву гэтага спатканьня. Я не магла зрушыцца зь месца. Ён зірнуў на мяне сваімі цудоўнымі вачыма й апусьціў сваю руку мне на галаву. І ў нейкім ня вытлумачальным парыве я схапіла гэтую руку і пачала яе цалаваць, абліваючы сьлязамі. І тады вы абодвы падыйшлі й сталі з намі побач. Другой рукой Яміла прыхінуў вас да сябе. — «Усякія словы спачуваньня ў такой сытуацыі былі-б лішнімі!» — сказаў ён. Гэта выклікала новы выбух сьлёз. І ён загаварыў зноў: — «Я цяпер зусім ясна ўяўляю вас маткай гэтых дзяцей, але гэта ні ў якой меры, таксама, як і якія-небудзь іншыя меркаваньні, не адбіліся на маіх плянах: па-ранейшаму я вас кахаю!..» Я не знаходзіла сілы сказаць яму — не! — хоць гэты адказ у душы быў ужо гатовым. Ён заўважыў гэта, выйшаў на двор і сеў на ганку. — «Ты будзеш нашай мамай?!» — запытаўся ты Алесь, прытуліўшыся да мяне. — «Гэта добра — мы будзем цябе любіць, бо ты заўсёды прывозіла нам цукеркі.»

— Няўжо я быў такі падліза? — із сьмехам спытаў Алесь.

— Так, вы былі цудоўнымі дзеткамі! І вось тады я зразумела, як я павінна яму сказаць. І я выйшла да яго на ганак. — «Не, Яміла, даруй мне, я не магу...» Ён неяк адразу скурчыўся, памізарнеў. Я стаяла перад ім, як аслупянелая. — «Калі-б ты сказала наадварот, я быў-бы зьдзіўлены... У такой сытуацыі, гэта адзіна магчымы адказ. Я разумею, ты баішся ўзяць на сябе адказнасьці за нашу будучыню пры наяўнасьці таго, што ты ўжо, фармальна, стала маткай двух дзяцей. Запэўніваю цябе — ты ніколі не пачуеш ад мяне навет малейшага намёку на які-небудзь дакор, хай-бы сабе сытуацыя стала ў дзесяць разоў горшай!» — «Не, любы, ня тое», — адказала я. — «Маральна я ня ў стане буду вытрымаць гэтага, ты разумееш? Мне заўсёды будзе здавацца ўсякае... Яшчэ раз прашу: даруй!» — Ён доўга сядзеў моўчкі, прыхінуўшыся сьпіной да сьцяны й адкінуўшы ўверх галаву. У сьвятле поўні я добра бачыла ягоны зьбялелы твар. Потым ён намацаў маю руку й пачаў яе горача цалаваць, — я пачула на руцэ ягоныя сьлёзы. — «Так, я зразумеў цябе», — сказаў, урэшце. — «Дазволь-жа мне, у такім выпадку, быць хоць тваім прыяцелем, навечна, каб... калі табе стане асабліва цяжка, я ведаў аб гэтым!» — І ён выпусьціў маю руку і павольна, як п'яны, пайшоў у кірунку да станцыі...

Магда на момант змоўкла.

— І вось, часам, я люблю пакласьці перад сабой гэтыя рэчы й глядзець на іх. Тады я ўспамінаю сваю маладосьць — зь ейнымі марамі, жаданьнямі, надзеямі й плянамі — з усім тым, што складае чалавечае жыцьцё...

— Ты аддала яго нам! — нібы ў змове адказалі абодвы пляменьнікі.

Магда маўчала.

— Скажыце, а дзе ён цяпер, гэты дзіўны Яміла? — спытаў Алесь.

— Гэты самы хлопчык? А ён недзе працуе... Але, магчыма, вы яго хутка ўбачыце, — адказала.

Гутарка й пачастунак перапыніліся. Абодвы пляменьнікі былі пад моцным уражаньнем расказанага й адчувалі сябе як-бы вінаватымі перад цёткай. Яны толькі пазіралі на яе, ня ведаючы, як трымацца і што сказаць? У сэрцы іхным бурліў і гнеў на некага за лёс гэтае жанчыны, і літасьць да яе і, адначасна, незадаваленьне, што яна аддала сябе ў вахвяру за іх. А цётка Магда, пад уплывам успамінаў, як яна ўсё гэта перажывала, як перамагала ўласнае жаданьне стаць жонкай каханага чалавека і маткай ягоных дзяцей, таксама расчулілася...

**(Заканчэньне будзе)**

*Куток мовы*

# Які мае быць парадак літараў беларускае абэцады

Тыя з народаў моваў славянскіх, што прынялі хрысьціянства зь Бізантыі, прынялі веру Хрыстову ў мове старабаўгарскай, каторая, стаўшыся такім парадкам моваю царкоўных адправаў а царкоўнае літаратуры, пачала звацца моваю царкоўна-славянскай. Пісьмо мовы стара-баўгарскае або царкоўна-славянскае было двоякае, спачатку глаголічнае, крыху пасьлей і кірылічнае. Глаголіца даўгі час заставалася ў Харватаў, пакуль ня была там выцісьнена лацініцаю.

З прыймом хрысьціянства дзядамі нашымі ў 10-ым веку, да Беларусі прышла царкоўная літаратура стара-баўгарская, пісаная пісьмом кірылічным, кірыліцаю. Кірыліца была ўтворана з абэцады грэцкае із захаваньнем парадку літараў гэтае абэцады. У канцу 17 стагодзьдзя выдатны навучоны й друкар беларускі, Гальляш Капіевіч-Капіеўскі, зрабіў рэформу кірыліцы, даўшы яе літарам хорму такую, якая цяпер ёсьцека ў кірыліцы беларускай і ў кірыліцы іншых народаў, бо й яны прынялі рэформу навучонага Беларуса.

Але парадак літараў кірыліцы Капіевіч пакінуў стары. Хоць гэты парадак не прытарнаваны да гукаў славянскіх, але адно ў вабэцадзе беларускай у ім ё вялікія заганы. Прычына гэтага тая, што ў мове беларускай ё накшы развой самагукаў, зн. ё аканьне, чым мова беларуская розьніцца ад усіх іншых моваў славянскіх.

У мове беларускай ненацісьненыя **о, э, е** заўсёды пераходзяць у **а (я)** ды **а** зь ненацісьненых **о, э,** абазначаецца й на пісьме заўсёды літараю **а,** а **я** зь ненацісьненага **е** абазначаецца на пісьме часта літараю **я.** Дзеля таго, пры дагэтулешнім парадку літараў нашае абэцады, словы з тым самым этымолёгічным **о** ў караню, але з розным націскам, стаяць у слоўніку ў межах тае самае літары далёка адно ад аднаго (прыкладам: **ноч і начаваць, начлег, начніца, начулішча; воз, возьнік і вазіць).** Яшчэ далей стаяць адно ад аднаго (бо адныя на пачатку, а другія на канцы пад тэй самай літараю) словы розна-націсьненыя з этымолёгічным **э, е** у караню (прыкл. **чэсьць** і **частаваць; чэп** і **чапаць, чапяла; рэзаць** і **разьнік; лес** і **лясьнік; дзень** і **дзяньнік).** Калі-ж-бы парадак літараў абэцады быў такі, што **о, а, э** стаялі беспасярэдня адна за аднэй[1]), а **е, ё я** таксама, тады менаваныя й да іх падобныя словы стаялі-б побач або блізка адны да адных, што палягчыла-б знаходжаньне словаў у слоўніку, прыяла-б лепшаму разуменьню паходжаньня й значэньня.

Другой асаблівасьцяй фонэтыкі беларускае, дзеля якое патрэбна зьмена парадку літараў абэцады, ё пераход **у** і **в** у **ў.** Пры цяперашнім парадку літараў абэцады аднакарэнныя словы з **у** і **ў** зь ненацісьненага **у** (прыкл.:**навука, навучоны),** а таксама з **в і ў з в** (прыкл.: **лава** и лаўка; **галава, галауны** й **галоука; трава** й **траўка, траўлівы; стаў** і **ставок)** стаяць у слоўніку далёка адно ад аднаго. Калі-б, адылі, паставіць у вабэцадзе **в, у, ў** побач[2]), дык падобныя словы таксама стаялі-б у слоўніку побач або блізка адны да адных.

Такі лексычна-ґрафічны прынцып супоўна правесьці немагчыма, але й частвава праведзены, толькі, колькі тут паказана, палягчыць працу над слоўнікам і яшчэ болей із слоўнікам.

Менаваныя зьмены парадку літараў нашае абэцады вельмі патрэбныя, іншыя пажаданыя дзеля паляпшэньня парадку літараў. Пажадана, каб літары, абазначаючыя гукі блізкія адны да адных сваёй вымоваю, і стаялі блізка да сябе. Напошку пры разьмяшчэньню літараў можа быць брана пад увагу паходжаньне гукаў; калі адзін гук паходзе з другога, дык літара, яго абазначаючая, мела-б і стаяць зараз-жа за літараю другога.

Найбольшае значэньне пры разьмяшчэньню літараў мае прынцып лексычна-ґрафічны, што досыць чыне патрэбам слоўнікавым. Наступное значэньне мае блізіня гукаў подле іх вымовы, як зьява жывая. Найменей-жа належа лічыцца пры разьмяшчэньню літараў з паходжаньням гукаў. Толькі па досыць учыненьню першым дзьвюм патрэбам можа быць брана пад увагу паходжаньне гукаў.

Дзеля менаванага літары **ґ, г. х** маюць і стаяць у вабэцадзе ў гэткім-жа парадку, бо гук **г** паходзе з **ґ,** а вымова **х** блізкая да вымовы **г.**[3])

**Дз, дж, з, ж** маюць стаяць разам дзеля блізіні вымовы гэтых гукаў[4]), ды **дж** за **дз,** а **ж** за **з,** бо **дж** часта паходзе з **дз (хадзіць-хаджу)** а **ж** часта паходзе із **з (рэзаць-рэжу).**[5]).

**С, ш** маюць стаяць побач, дзеля блізіні свае вымовы ды **ш** за **с,** бо **ш,** часта паходзе із **с (каса, касіць, кашу).**[6])

Дык парадак літараў кірыліцы беларускае мае быць гэткі:
**о, а, э, б, ґ, г, х, д, е, ё, я, дз, дж, з, ж, і, й, к, л, м, н, п, р, с, ш, т, в, у, ў, ф, ь, ц, ч, ы, ю.**

Народы, што прынялі хрысьціянства з Рыму, узялі рымскую абэцаду, зн. лацініцу, да свае мовы. У Беларусі й рымскія каталікі даўгі час ужывалі кірыліцы як у сьвецкім, так і ў царкоўным жыцьцю. Але, пачынаючы із 17-га стагодзьдзя, сярод каталікоў спакваля пашыраецца лацініца, ужываная побач із звычайна ўжываной кірыліцаю. Цяпер лацініца часткава ўжываецца ў друку сьвецкім і вылучна пануе ў рэлігійных выданьнях Беларусаў-каталікоў (лацінінікаў).

Дзеля вышменаванага парадак літараў беларускае лацініцы быў-бы гэткі:
**o, a, e, b, c, ć, č, d, f, g, h, ch, i, j, k, l,ł, m, n, ń, p, r, s, ś, š, t, v, u, ŭ, dz, dź, dž, z, ź, ž.**

---

[1]) Дзеля таго, што часьцей у словах другатворных (як **начаваць, вазіць**) бывае **а** зь ненацісьненага **о,** то будзе лёґічна, каб словы спачатныя (як **ноч, воз**) стаялі ў слоўніку перад словамі другатворамі; дык, значыцца, трэба, каб і ў вабецадзе **о** стаяла перад **а.**

[2]) Дзеля таго што часьцей у словах другатворных ёсьць **ў з у** або з **в (навучоны, галоўка),** чымся ў словах спачатных **(роў),** парадак гэтых літараў меў-бы быць гэткі, **в у, ў.**

[3]) Чэхі, у каторых моваведа стаіць найвышэй і тарнуецца ў жыцьцю практычным, такі самы прынялі парадак гэтых трох літараў.

[4]) Таксама ў вабэцадзе царкоўна-славянскай літара, званая **зело,** абазначаючая гук **дз,** стаіць ля літары, званай **земля,** абазначаючай гук **з.**

[5]) Зацемлю, што ў лацінічных абэцадах славянскіх **ж** стаіць за **з.**

[6]) Таксама **с, ш** стаяць у мове чэскай.

**Я. Станкевіч**

## УВАГА!

**У ВЫДАВЕЦТВЕ «БАЦЬКАЎШЧЫНЫ» АБО Ў НАШЫХ ПРАДСТАЎНІКОЎ заўсёды можна набыць наступныя кнігі:**

**Янка Купала. СПАДЧЫНА.** Выбар паэзіі з крытычным артыкулам Ст. Станкевіча. Бач. 564. Цана 7, 9 або 11 ам. дал. (залежна ад вокладкі й паперы).

**Янка Купала. ТУТЭЙШЫЯ.** П'еса з крытычным артыкулам Р. Склюта. 83 бач. Цана 1 ам. дал.

**Янка Купала. РАСЬКІДАНАЕ ГНЯЗДО.** Драма з крытычным артыкулам Р. Склюта. 58+XV бач. Цана 1 ам. дал.

**Якуб Колас. НОВАЯ ЗЯМЛЯ.** Паэма з крытычным артыкулам Р. Склюта. XXXII+246 бач. Цана 3 ам. дал.

**Якуб Колас. СЫМОН МУЗЫКА.** Паэма з крытычным артыкулам Р. Склюта й А. Бабарэкі. XXXII+238 бач. Цана 3 ам. дал.

**Якуб Колас. У НАЛЕСКАЙ ГЛУШЫ.** Повесьць. 158 бач. Цана 1,50 ам. дал.

**Максім Багдановіч. ВЯНОК.** Збор твораў з крытычным артыкулам Ст. Станкевіча й Ант. Адамовіча. 274 бач. Цана 3 або 4 ам. дал. (залежна ад вокладкі).

**Алесь Гарун. МАТЧЫН ДАР.** Збор твораў з крытычнымі артыкуламі Ант. Адамовіча й А. Барычэўскага. 268 бач. Цана 3 ам. дал.

**Андрэй Мрый. ЗАПІСКІ САМСОНА САМАСУЯ.** Сатырычная аповесьць з крытычным артыкулам Р. Склюта. 88 бач. Цана 1 ам. дал.

**Лукаш Калюга. НЯДОЛЯ ЗАБЛОЦКІХ.** Аповесьць з крытычным артыкулам Р. Склюта. 127 бач. Цана 1,50 ам. дал.

**Власт (Вацлаў Ластоўскі). ТВОРЫ.** Апавяданьні. 112 бач. Цана 1 ам. дал.

**Юрка Віцьбіч. ПЛЫВЕ З-ПАД СЬВЯТОЙ ГАРЫ НЁМАН.** Мастацкі нарыс. 94 бач. Цана 1 ам. дал.

**Аляксей Кулакоўскі. ДАБРАСЕЛЬЦЫ.** Аповесьць з крытычным артыкулам Ст. Станкевіча. 110 бач. Цана 1 ам. дал.

**БЕЛАРУСКІЯ КАЗКІ.** Зборнік народных казак і літаратурных твораў з казачнымі матывамі. 215 бач. Цана 3 або 4 ам. дал. (залежна ад вокладкі).

**ЛЯ ЧУЖЫХ БЕРАГОЎ.** Альманах твораў беларускіх эміграцкіх паэтаў і пісьменьнікаў. 238 бач. Цана 3 ам. дал.

**УВАГА! УВАГА!**

Ужо выйшла ў сьвет цікавая й цэнная кніга Канстанціна Акулы:




Кніга абыймае 586 бачынаў друку й каштуе: у Задзіночаных Штатах Амэрыкі й Канадзе — 7 даляраў, у Аўстраліі й Ангельшчыне — 2 фунты, іншых краінах — раўнавартасьць 6 амэрыканскіх даляраў.

Ужо можна заказваць гэтую кнігу ў самога Аўтара паводля наступнага адрысу: **Mr. Konstantin Akula, 57 Riverdale Ave, Toronto 6, Ont. Canada,** а таксама ў Адміністрацыі «Бацькаўшчыны» й ейных Прадстаўніцтвах.

Што зь сябе прадстаўляюць «Змагарныя Дарогі», чытач можа даведацца із зьмешчанага ў 1—2 (585—586) нумары «Бацькаўшчыны» спэцыяльнага артыкулу.

*Зь беларускага жыцьця*

# Зь дзейнасьці Беларусаў у Канадзе

**НА КАНФЭРЭНЦЫІ АБ ІМІГРАЦЫІ**

І сёлетнюю гадавую канфэрэнцыю аб іміграцыі, што склікала Сацыяльна-плянавая Рада Вялікага Таронта ў днёх 9—10 сакавіка гг. у Таронцкім Адукацыйным Цэнтры, былі запрошаныя наведаць і Беларусы, як ад ЗБК, так і БНА. У першы дзень канфэрэнцыі прысутныя заслухалі даклад фэдэральнага Міністра Іміграцыі й Грамадзянства місіс Фэйркло аб новым урадавым законе ў справах іміграцыі ў Канаду, адкуль было відаць, што ў будучыні Канада пераходзіць на сэлекцыйную мэтоду прыняцьця імігрантаў-фахоўцаў розных дзялянак з усіх краін сьвету, ды таксама пакідае й надалей іміграцыю, спансараваную блізкімі сваякамі. Міністру было пастаўлена шмат запытаньняў, на якія даваліся тут-жа адказы.

Назаўтрае ад раніцы ўдзельнікі разыйшліся па жаданых падкамітэтах (было такіх 5), з мэтаю абгаворваньня пытаньняў, зьвязаных зь іміграцыяй, новым законам, інтэграцыяй, адукацыяй і фаховым перашкаленьнем ды краінамі, адкуль найбольш іміграцыя наплывае, і пад. Па паўдні адбылася падсумоўка прац падкамісіяў і іхных рэкамэндацыяў для працы на 1962 год Таронцкай Сацыяльна-плянавай Рады ў дапамозе новапрыбылым. Перавыбарамі Ўправы Рады СПР была закончана сёлетняя канфэрэнцыя. Сяброўства С. П. Р. складае 2 дал., для арганізацыі ці агенцтва — 25 дал.

**ЦЭННЫ ПАДАРАК**

Парахвіяне Сьв. Кірылы Тураўскага вельмі цешацца з дабрыні сэрцаў спрынь Ананіч і ейнай дачкі Лёдзі, якія ўзапраўды ўпрыгожылі залю БР-ГЦ сваім каштоўным падаркам у пачатку лютага, а менавіта, вялікім электрычным гадзіньнікам, коштам пад 30 дал.

**НА СУСТРЭЧЫ ЗЬ МІНІСТРАМ ФУЛТОНАМ**

Тры Таронцкія Прагрэсыўна-Кансэрватыўныя асацыяцыі ладзілі з нагоды Дня Сэнт Пэтрыка (сьвята Ірляндзкага Патрона) ў чэхаславацкай залі Масарык Гол у Таронта ў чацьвер 15-га сакавіка прыняцьце ў гонар фэдэральнага Міністра Юстыцыі даст. Е. Дэві Фултона і ягонай жонкі, куды былі запрошаныя Новаканадыйцы й іхняя прэса. У сваёй прамове даст. Фултон зазначыў, што тыранія й надалей пагражае вольнаму сьвету ды на працягу амаль усёй прамовы, крытыкаваў савецкі каляніялізм, які трымае пад сабой шмат народаў. Далей ён зазначыў, што Новаканадыйцы, што вырваліся з савецкай няволі й на сваёй уласнай скуры пазналі ўсе ейныя «дабрадзействы» лепш як тутэйшыя, могуць ацаніць значэньне асабістай свабоды, якія ў ёй радзіліся й выраслі. Далей ён закрануў стан сучаснай халоднай вайны, указваючы, што гэта — барацьба за людзкія душы, і ад выніку гэтай няспыннай барацьбы залежыць лёс сьвету. Ён таксама падаў да ведама, што ў недалёкай будучыні Канада выставіць у АЗН рэзалюцыю асуджэньня новага камуністычнага каляніялізму, што й будзе дадатковым доказам, што прэм'ер Дыфэнбэйкэр паставіў Канаду ў перадавую лінію змаганьня супроць бязбожніцкага камунізму.

Па прамовах адбыўся канцэрт, у якім бралі ўдзел Украінцы, Латышы, Летувісы ды Італьянцы, а пасьля яго — сустрэча кажнага паасобку з ганаровым госьцем (сябра Г. У. ЗБК двуразова меў нагоду сустрэцца й гутарыць зь міністрам ды перадаць яму брашуры аб Беларусі, прычым міністар абяцаў іх прастудыяваць). Супольным пачастункам закончыўся вечар.

**Таронтавец**



**ПАПРАЎКА**

У № 5 (589) «Б-ны» належыцца чытаць на 4-ай бачыне пад здымкам, у чацьвертым радку: ....і даст. Джон Кучэрэпа (пяты зьлева).

У пятым радку: ...Прадстаўнік Беларусаў А. Маркевіч (чацьвёрты справа, часткава прыкрыты).

**ДА НАШЫХ ПАДПІШЧЫКАЎ**

**Гэтым напамінаецца й просіцца ўсіх нашых падпішчыкаў урэгуляваць гадавую падпісную аплату й залежнасьць за газэту, пераказваючы грошы на адрыс прадстаўнікоў «Бацькаўшчыны» ў вадпаведных краінах або беспасярэдна на конто газэты.**

**Адміністрацыя**

**АБАВЯЗКАМ КАЖНАГА БЕЛАРУСА ЁСЬЦЬ ЧЫТАЦЬ, ПАШЫРАЦЬ І ПАДТРЫМЛІВАЦЬ «БАЦЬКАЎШЧЫНУ».**

**ПАВЕДАМЛЕНЬНЕ**

**Зьмяшчэньне звычайных абвестак, пошукаў і падзякаў каштуе за адзін газэтны радок 2 н. м. або 0,50 дал. Гэта значыць, абвестка, пошукі ці падзяка разьмерам 15-20 словаў будзе каштаваць адпаведна 8-10 ДМ або 2-2,50 дал. Паўторнае зьмяшчэньне каштуе палавіну гэтае цаны. Грошы просіцца пераказваць на банкавае конта «Бацькаўшчыны« або нашым прадстаўнікам у вадпаведных краінах.**

**Адміністрацыя**

# Сымфонія замест опэры

Нядаўна ў Менску адбыўся 4-ты зьезд кампазытараў БССР. На гэтым зьезьдзе абмяркоўваліся заданьні й праблемы беларускага музычнага мастацтва. Кампазытары выступалі ў дыскусіях і, як вымагае камуністычная этыка, гаварылі аб музыцы ў сувязі з пастановамі Пленуму ЦК КПСС і новай праграмай партыі.

Ня трэба быць удзельнікам зьезду, каб ведаць і разумець, аб чым там гаварылі. Заганы ў працы Саюзу кампазытараў, творчыя няўдачы дзеячоў музычнага мастацтва выявіліся ў пэўнай ступені, але ў вагульнай бравадзе прамоўцаў на першы плян выступала іншае: як заўсёды, прапагандовая шуміха аб далейшым разьвіцьці беларускага музычнага мастацтва, аб стварэньні выдатнай опэры, балету і сымфанічных твораў.

Аднак, хвальшывы аптымізм ня можа прыкрыць чорных плямаў. У газэце «Літаратура і мастацтва» № 22-гі зьмешчаны артыкул пад назовам «Песьняй да сэрца, сэрцам — да радзімы». Артыкул, як відаць, рэдакцыйны, бо няма подпісу аўтара. У ім мы і знаходзім адваротны бок мэдалю. Падаем цытату: «Нашы творцы музыкі значна актывізавалі сваю дзейнасьць, але нажаль, яшчэ не ўва ўсіх жанрах. Іх паранейшаму больш за ўсё захапляе работа ў галіне сымфанічнага жанру і мала цікавіць стварэньне новых сучасных опэраў і балетаў».

І запраўды. За мінулы год у тэатры былі пастаўленыя дзьве рэчы: балет «Мара» Глебава і опэра «Калючая ружа» Семяннякі. Аб гэтым пісалася ў газэтах, як аб вялікім дасягненьні ў справе разьвіцьця нацыянальнай музычнай культуры. Але ці сапраўды ў гэтым ёсьць дасягненьне? Чаму за мінулы год Менскім тэатрам пастаўленыя толькі два нацыянальныя музычна-сцэнічныя творы? Чаму, замест беларускіх опэраў, рэпэртуар тэатру запоўнены расейскімі й замежнымі?

Калі гаварыць аб творчых працаўніках, дык нельга сказаць, што ў Беларусі іх мала. Усім ведамыя кампазытары Залатароў, Цікоцкі, Аладаў, Багатыроў, Пукст, Глебаў, Семяняка і шмат іншых, якія ў умовах сапраўднай свабоды маглі-б даць куды больш сцэнічных твораў. Але ў сацыялістычнай краіне, наадварот: кампазытары ёсьць, а фактычна няма беларускіх опэраў.

Як заяўляе «Літаратура і Мастацтва», кампазытарская праца больш выяўляецца ў галіне сымфанічнага жанру. І гэта зразумела. Сымфоніі і іншыя інструмэнтальныя творы ня тояць у сабе палітычнай небясьпекі, яны ня зьвязаныя зь літаратурным тэкстам і ня выклікаюць падазрэньняў з боку партыйных цэнзараў. А колькі няпрыемнасьцяў, пакутаў і цярпеньняў перажываюць кампазытар і аўтар лібрэта! Дзеля ідэялягічнай вытрыманасьці опэру, можна сказаць, кладуць у Пракрустава ложа, прымушаюць творцаў некалькі разоў яе перарабляць. У выніку на сцэне зьяўляецца не нацыянальны твор, а нейкі гібрыд. Гэта й зьяўляецца галоўнай прычынай, чаму кампазытары бяруцца за іншы жанр, ці ў лепшым выпадку пішуць опэры не зь беларускай тэматыкі. Як прыклад, прыгадаем опэру Багатырова «Надзежда Дурава».

Ня лепш і зь беларускімі песьнямі. Газэта «Літаратура і Мастацтва» прызнаецца, што за апошні час песьні, напісаныя беларускімі аўтарамі для харавога й сольнага выкананьня, недастаткова яркія й мала прывабныя, як паводля мэлёдыі, так і паводля тэкстаў. Газэта зазначае, што яшчэ й сяньня да беларускай музыкі ў Менскай Філярмоніі «часам ставяцца насьцярожана».

І гэта ня дзіва. Камуністыя ў Беларусі вядуць жорсткае змаганьне з праявамі г. зв. нацыяналізму. Гэтая сытуацыя й вымушае некаторых творчых працаўнікоў адыходзіць ад нацыянальных праблемаў. І сама газэта «Літаратура і Мастацтва», гаворачы аб беларускіх музычных творах, адкрыта заяўляе:

«Партыя і ўрад бачаць у кампазытарах сваіх блізкіх памочнікаў у ідэйным і эстэтычным выхаваньні моладзі, у стварэньні агульнанароднай, агульначалавечай культуры камуністычнага грамадзтва».

Пасьля гэтага ўсё ясна. У такіх умовах, калі кампазытараў прымушаюць стацца памочнікамі партыі, цяжка стварыць запраўдную беларускую опэру, беларускія песьні.

**С. Корбут**

## НАШЫЯ ПРАДСТАЎНІЦТВЫ

**АНГЕЛЬШЧЫНА:**
Mr. Aleksander Laszuk, 97 Moore Park Rd., London, S. W. 6.

**АЎСТРАЛІЯ:**
**Mr. A. Vasilenia,** 39 Edwin St., Croydon, N. S. W.
**Mr. A. Maroz,** 109 Morrison Rd., Midland Junction, W. A.
**Mr. M. Nikan,** 14 Steel St., Spotswood—Melbourne, Vic.
**Mr. W. Akavity,** 80 Tapley Hill Rd., Royal Park, S. A.

**БРАЗЫЛІЯ:**
**Mr. C. Cimafiejčyk,** Prasa 76, Tiridentes, Curitiba — Parana.

**ЗАДЗІНОЧАНЫЯ ШТАТЫ:**
**Mrs. L. Bielenis,** 2042 W. St. Paul Ave., Chicago 47, Ill.
**Mr. B. Danilovich,** 303 Howard St., New Brunswick, N. J.
**Mr. Ul. Duniec,** 814 Brayton Ave., Cleveland 13, Ohio.

**КАНАДА:**
**Mr. K. Akula,** 57 Riverdale Ave., Toronto 6, Ont.

**ФРАНЦЫЯ:**
**Union des Travailleurs Biélorussiens en France,** 26, rue de Montholon, Paris 9.
**Mr. W. Kasztelan,** 33 rue Kleber, Mouvaux (Nord).




**Беларускі тыднёвік палітыкі, культуры і грамадзкага жыцьця.**
**Выдавец: Уладзімер Бортнік**
**РЭДАГУЕ КАЛЕГІЯ**
**Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, не заўсёды выражаюць пагляды Рэдакцыі. Незамоўленыя рукапісы назад не зварочваюцца. Рэдакцыя адказвае на лісты толькі пасьля далучэньня паштовае маркі або міжнароднага паштовага купону.**